# ПАГОНЯ

Чацвер
13 студзеня 2000 г.
№ 2 (449)
Кошт 70 рублёў


## На мяжы стане больш даверу

**У студзені прадоўжацца беларуска-польскія перамовы па праекце дагавору паміж краінамі аб рэжыме дзяржаўнай мяжы, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе па пагранічных пытаннях. Прадстаўнікі пагранічных ведамстваў дзвюх дзяржаваў павінны сустрэцца ў Гродне.**

Першы этап гэтых перамоваў прайшоў 1—3 верасня 1999 года ў польскім горадзе Супраслі пад Беластокам. Змешаная камісія створана ў 1992 годзе для фактычнага пацвярджэння таго, што ў Беларусі і Польшчы няма рознагалоссяў па пагранічных пытаннях. Прынята рашэнне аформіць правапераемства дагавору аб мяжы паміж СССР і Польскай Народнай Рэспублікай, падпісанага ў 1945 годзе, дагавору паміж урадамі СССР і ПНР аб рэжыме мяжы, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе па пагранічных пытаннях, падпісанага ў 1961 годзе, а таксама шэрагу іншых дакументаў.

У новым дагаворы будуць вызначаны, у прыватнасці, парадак вядзення на мяжы або паблізу ад яе гаспадарчай дзейнасці, карыстання пагранічнымі водамі, абазначэнне мяжы на мясцовасці, пытанні яе ўтрымання.

Чакаецца, што дагавор будзе падпісаны ў верасні — кастрычніку 2000 года.

Вячаслаў Будкевіч

## З'язджаюць лепшыя...

**Вядомы ў Радуні і на Воранаўшчыне гісторык ды паэт Алесь Сакалоў не здолеў уладкавацца ў Пашкавіцкую няпоўную сярэднюю школу настаўнікам гісторыі. Дырэктар школы Юзаф Кірвель быў «за», але справе даў «стоп» Старшыня раённага аддзела адукацыі Аляксандр Кашлей.**

Алесь Сакалоў - гісторык (скончыў БДУ), паэт (нядаўна ў Грамадскім аб'яднанні «Ратуша» выйшла ягоная кніга вершаў «Чорнае сонца»), драматург (кіраўнік Радуньскага дзіцячага паэтычнага тэатра «Сьвітанак») ды актыўны сябра Народнага Фронту. Ён быў адным з нямногіх, хто бараніў у судзе звольненага кіраўніка Радуньскай раённай сістэмы адукацыі Паўла Орпіка, пісаў папулярныя байкі: «Таварышчы, я очэнь шчасліфі», «Супэрмэн», «Джыгіт» у газеце «Мястэчка», а таксама распаўсюджваў незалежныя выданні.

Усё гэта так не спадабалася раённай вертыкалі, што спадар Сакалоў, не ўладкаваўшыся на працу, трапіў у цяжкае матэрыяльнае становішча (жонка і хворая дачка) ды вымушаны быў з'ехаць з Радуні.

Цяпер Алесь Сакалоў шукае сабе працу на Магілёўшчыне.

Віталь Куплевіч,
географ, рэдактар радуньскай газеты «Мястэчка», сябра БНФ

## Праваслаўны «Свет»

**У Гродне адкрыўся першы праваслаўны відэасалон «Свет».**

Ён месціцца ў памяшканні нядзельнай школы Свята-Уладзімірскай царквы і наладжаны пры дапамозе дзеючага пры гэтым храме праваслаўнага брацтва. Дадзенае пачынанне блаславіў парафіяльны святар царквы айцец Аляксандр.

Відэасалон разлічаны на 30 чалавек. Прыйсці сюды зможа любы гараджанін, увaход бясплатны.

Ася Куніцкая




**14 і 15 студзеня** - воблачна, кароткачасовы снег. Вецер пераменных напрамкаў, 3-8 м/с. Тэмпература паветра ўначы -2...-7, удзень -3...+2.

## Беларусь яшчэ незалежная, але Дубко ўжо «губернатор»

**Роўна 100 гадоў таму была ўтворана Гарадзенская праваслаўная епархія. З гэтай нагоды 10 студзеня ў абласным драматычным тэатры адбылося ўрачыстае пасяджэнне, удзел у якім прыняў Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Ён адзначыў ролю епархіі ва ўмацаванні праваслаўя на заходніх рубяжах Айчыны, з гонарам вытрымала шматлікія выпрабаванні і цяпер «церковь с государством идут вместе».**



Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт выступае з прамовай з нагоды юбілею Гарадзенскай епархіі

Высокі госць ад імя і па даручэнні Патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі Алексія ўручыў старшыні аблвыканкама Аляксандру Дубко кнігу, спецыяльна выдадзеную да 2000-га юбілею хрысціянства з уласнаручным надпісам: «Губернатору города Гродно с благодарностью...», а таксама мастацкае палатно на тэму Раства Хрыстовага.

У сваім выступе старшыня абласнога выканаўчага камітэта падкрэсліў, што цяпер людзі шукаюць «умиротворения в религии», роля якой у духоўным выхаванні чалавека надзвычай важная. Паводле ягоных словаў, дзяржава таксама імкнецца дапамагчы грамадзянам у вырашэнні іх праблемаў. Больш таго, назіраецца эканамічны рост. Але часам узнікаюць цяжкасці з своечасовай выплаце заробкаў, пенсіяў, сацыяльных дапамог. Тым не менш, Аляксандр Дубко паведаміў пра выдаткаванне двух мільярдаў рублёў на патрэбы царквы.

Сцяпан Ярашчук

## «Спадзяюся, што ўсе мы абавязкова знойдзем сьцежачку да Бога»

**Айцец Аляксандар Елісейчык - настаяцель Барысаглебскай (Калоžскай) царквы. Ён самы малады настаяцель у нашым горадзе. І менавіта ён першым у Гарадзенскай епархіі пачаў чытаць літургіі па-беларуску.**

**Нашая зь ім размова адбылася ў дні, калі праваслаўныя вернікі адзначалі сьвята Божага Нараджэньня.**

***- Ці гатова нашае грамадзтва сустрэць трэцяе тысячагодзьдзе? З чым мы прыйшлі да 2000 году?***

- Мінулае стагодзьдзе было багатае на падзеі, але ў 2000 годзе мы прыйшлі да такога ж нуля, зь якога й пачыналі ў 1900 годзе. Мала таго, мы нават у мінусе знаходзімся. Мяркуйце самі, на пачатку стагодзьдзя, у 1900 годзе, у Гарадзенскай епархіі быў свой старажытны будынак, іншае стаўленьне ўладаў, Каложская і Сафійская брацтвы, Каложская цудатворная ікона Божай Маці (якую ў 1915 годзе вывезлі ў Маскву) - сёньня гэтага нямашака. Зьнішчаны Аляксандра-Неўская царква і Сафійскі сабор (як жартаваў мой сябра, на храм вяроўку закінулі, сфатаграфавалі, сказалі, што расколіна пайшла; памяшканьне ў аварыйным стане - трэба ўзарваць).

***- Але ёсьць, напэўна, і добрае ў нашым жыцьці...***

- Пра добрае хай кажуць вернікі. Хачу адзначыць толькі, што з 1999 года ў Каложы пачалі чытаць літургіі па-беларуску. Важная падзея таксама - гэта ўсталяваньне крыжа Ефрасіньні Полацкай на месцы, дзе будзе будавацца храм «Сабора Ўсіх Беларускіх Сьвятых».

***- Тым ня меньш, шмат хто прарочыць Апакаліпсіс напрыканцы гэтага тысячагодзьдзя. Ці не чакае нас насамрэч канец сьвету?***

- Канкрэтныя даты «апошняга часу» называюць толькі альбо сэктанты, альбо людзі, якія ня маюць дачыненьня да праваслаўнай царквы. Бо гэта дзень схаваны ад людзей, і толькі Бог ведае, калі ён прыйдзе. На маю думку, Апакаліпсіс можа здарыцца тады, калі яго будуць меньш за ўсё чакаць, калі на Зямлі будзе поўнае бязьвер'е.

***- Вучэньне Хрыста павінна аб'ядноўваць. Але існуе падзел на праваслаўных і каталікоў. Асабліва гэта бачна ў Заходняй Беларусі. Ці ня лічыце Вы, што ў трэцяе тысячагодзьдзе беларускія хрысьціяне ўсё-ткі павінны ўвайсьці разам, аб'яднаць свае намаганьні для пабудовы сваёй нацыянальнай краіны, цывілізаванага грамадзтва?***

- Самы просты прыклад: драўляныя рыштаваньні, у якіх зараз стаіць Кафедральны Сабор, выкарыстоўваліся раней для рэстаўрацыі Фарнага касьцёлу. Каб нешта будаваць, ня трэба адступацца ад сваіх прынцыпаў. Бо каб разабрацца, дзе ісьціна, Бог даў чалавеку розум. Што тычыцца аб'яднаньня, то каталіцкая царква зайшла занадта далёка ў расколе. І між іншым, каталіцызм першым зьмяніў сымбаль веры (яшчэ ў 1054 годзе). Таму поўнае аб'яднаньне можа надысьці толькі тады, калі людзям ня будзе важна, ува што верыць.

***- У нашым жыцьці няма і дня без паводкі, землятрусу. Кожны дзень мы чуем пра экалягічныя катастрофы. Сьвет вар'яе...***

- З-за чаго пачынаюцца войны? Я лічу, што рэлігійныя войны памерлі разам з Рычардам Львінае Сэрца. А ўсе сучасныя канфлікты - з-за нафты, наркотыкаў, грошай... Прага да гэтага - і ёсьць прычына ўсіх катастрофаў.

***- Ці ёсьць нейкае выйсьце з гэтага замкнёнага кола?***

- Здаецца мне, што ў гэтым годзе будзе нейкі пералом у нашым жыцьці. Таму лічу, што 2000 год павінен стаць годам пакаяньня. Бо кожнага грэшніка, які каецца, Бог прымае. Як казаў прарок, «Бог ня хоча сьмерці грэшніка, але каб ён навярнуўся і быў жывы». Спадзяюся, што ўсе мы абавязкова знойдзем сьцежачку да Бога.

Гутарыла
Юлія Дарашкевіч

## Ствараецца дыяканічная станцыя

**Пры Гарадзенскім епархіяльным упраўленні ствараецца дыяканічная станцыя. Яна будзе каардынаваць, упарадкоўваць працу дзеючых пры праваслаўных прыходах сястрыцтваў і брацтваў па аказанні дапамогі людзям, якія маюць патрэбу ў апецы.**

Як і раней, сёстры і браты будуць наведваць цяжка хворых, дапамагаць духоўна і фізічна састарэлым, хворым, інвалідам, выконваць ролю своеасаблівых патранажных сёстраў. А дыяканічная станцыя будзе імкнуцца зрабіць дапамогу больш мэтанакіраванай і адраснай. Гэтая работа праводзіцца з блаславення мітрапаліта Менскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.

## «Малады і нежанаты, правядзі мяне дахаты!»

**Паводле вынікаў апошняга перапісу, у вобласці з агульнай колькасці мужчын ад 16 гадоў і старэй ніколі не знаходзіліся ў шлюбе 22 працэнты. А ў Гродне амаль 25 працэнтаў мужчын ніколі не жаніліся.**

Не ведаю, як каго, а мяне гэтыя лічбы шакавалі і падштурхнулі да роздуму. Гэта значыць, што кожны чацвёрты мужчына ў горадзе так і ходзіць халастым.

Чаму ў грамадстве, у аснове якога, як вядома, ляжыць сям'я, так шмат мужчын застаецца халасцякамі? У пошуках адказу трэба ўлічваць той факт, што жанчына, так бы мовіць, «выспявае» да шлюбу раней за мужчыну. Гэта ўскладняе праблему выбару партнёркі. Знайсці дзяўчыну і закахацца ў яе мужчыны лягчэй у юнацтве: унутраны напор моцы, сокі бурляць, гармоны гуляюць, а здольнасці выбіраць - адстаюць, калі не сказаць, што неразвітыя зусім.

Бываюць і мужчыны, якія ні разу ў жыцці не закахаліся. Бываюць другія: яны здольныя закахацца, і не адзін раз, але не жэняцца. Сталеючы, мужчына становіцца пераборлівым. Кроў ужо не кіпіць, верх бярэ рацыяналізм. Замест таго, каб стрымгалоў кінуцца ў вір сямейнага жыцця, ён прыкідвае ўсе «за» і «супраць». Відавочна, што для мужчыны пасля 30-ці шлюб траціць прыцягальнасць. Любоўны запал можна супакоіць і без штампу ў пашпарце. Мінае час, халасцяцкі быт усталёўваецца, халасцяк не адчувае сябе адзінокім. Ён вучыцца жыць адзін, усталёўвае свае кола зносінаў. Ён можа марыць пра незвычайна прыгожую дзяўчыну, дзеля якой ён кіне ўсе выгоды свайго спакойнага адзінокага свету - аднак разам з ростам ягоных запытаў звужаецца кола кандыдатак. Адпаведна той жа статыстыцы, ва ўзросце да 40 гадоў пераважаюць мужчыны. І пакуль «жаніх» наважыцца - ягоныя равесніцы ўжо павыходзяць замуж.

На нездаровы рост халасцяцтва ўплывае, напэўна, і збядненне насельніцтва. Цяжка пражыць аднаму, а не тое, што ўтрымліваць жонку з цэлым кагалам румзаючых дзяцей.

Да таго ж, ацэньваючы свае віды на будучыню, мужчына прыглядаецца да жанатых сяброў. Большасць з іх «клеіць» дзяўчат на працы ці на вуліцы альбо шмыгае «налева» з чужымі жонкамі. Адсюль натуральны вынік, што калі жанатыя шукаюць уцех па-за шлюбам, дык яму і пагатоў не варта пачынаць.

Халасцяк - той чалавек, які сто разоў падумае перад тым, як скокнуць... А потым вырашае ўсё-ткі, што скакаць не варта.

А можа, мы назіраем пачатак атрафіі інстынкту працягу роду?

Алена Сіневіч

# Адстаўка Барыса Ельцына, хутчэй за ўсё, не зменіць інтэгратарскіх планаў Масквы

**Цяпер ужо экс-прэзідэнт Расейскай Федэрацыі Барыс Ельцын напярэдадні Новага 2000 года зноў уразіў усіх і ўся. Палітык, які час ад часу здзіўляў непрадказальнымі хадамі, на гэты раз ашаламіў, без перабольшвання, калі заявіў аб добраахвотнай адстаўцы за паўгода да заканчэння тэрміну сваіх прэзідэнцкіх паўнамоцтваў.**

Наколькі гэтае рашэнне адлюстроўвае палітычную сітуацыю ў самой Расеі, безумоўна, - тэма асобнага даследавання. У рамках дадзенага артыкула гутарка пойдзе пра магчымы ўплыў адстаўкі Б.Ельцына на беларуска-расейскія адносіны.

Доўгі час інтэграцыйныя крокі Барыса Ельцына ў дачыненнях да Беларусі тлумачыліся перш за ўсё памкненнем тагачаснага прэзідэнта Расеі захаваць сваю ўладу. Нагадаем, што Б.Ельцын знаходзіўся на пасадзе кіраўніка дзяржавы два тэрміны, і ў адпаведнасці з дзеючай расейскай Канстытуцыяй разлічваць на абранне ў трэці раз ужо не мог. Адсюль, маўляў, і так званы запасны варыянт, паводле якога Беларусь і Расея аб'ядноўваюцца ў адну дзяржаву, а потым Б.Ельцын вылучае сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта аб'яднанай дзяржавы. Паколькі краіна новая, то і любы прэтэндэнт на пасаду кіраўніка дзяржавы балатуецца ўпершыню. Аўтарства гэтага плану прыпісваюць Сяргею Шахраю. Сёння, пасля добраахвотнай адстаўкі, гэтым планам не наканавана здзейсніцца.

Другой распаўсюджанай версіяй аб'яднаўчых памкненняў Б.Ельцына была наступная - маўляў, Барыс Мікалаевіч, які разваліў у Віскулях Савецкі Саюз, хацеў бы ўсё ж застацца ў гісторыі збіральнікам земляў. Адсюль і яго інтэграцыйныя матывы. Рэчаіснасць адкінула і гэтую версію, хаця было б наіўна думаць, што і першая, і другая не існавалі. Яны, безумоўна, былі. Але, як вядома, чалавек мяркуе, а Бог распараджаецца...

Што тычыцца Аляксандра Лукашэнкі, то яго інтэграцыйныя матывы тлумачацца яшчэ прасцей. Вельмі ж вялікая спакуса «парулiць» такой велізарнай махінай, як Расейская Федэрацыя. Але для гэтага неабходна першапачаткова аб'яднацца з Расеяй. І таму ўсе ініцыятывы з Менска былі скіраваныя менавіта на гэта. І не бяда, што А.Лукашэнка з'яўляецца на гэтым фоне прадстаўніком нацыянальнай меншасці.

Савецкая гісторыя дала яскравы ўрок таго, як Іосіф Сталін, грузін па нацыянальнасці, кіраваў краінай, якая была яшчэ большай за Расею. З крыніцаў, што заслугоўваюць даверу, вядома, што ў Менску вялікая група людзей, якая мае доступ да афіцыйнага лідара дзяржавы - у першую чаргу Уладзімір Замяталін, Міхаіл Мясніковіч, Уладзімір Сяўрук, генералы Варанкевіч і Іваноў ды іншыя - пераконвалі Лукашэнку ў сваіх аб'яднаўчых планах ісці, як кажуць, да пераможнага канца. Масла ў агонь падлівалі і маскоўскія камівяжоры Сяргей Бабурын, Канстанцін Затулін, Андранік Мігранян... Гэтыя ды ім падобныя людзі, не запатрабаваныя сур'ёзнымі палітычнымі групамі, але якія ўявілі сябе значнымі палітыкамі, даволі рэгулярна наведваліся ў Менск і нашэптвалі на вушка: маўляў, Расея чакае не дачакаецца Вас, Аляксандр Рыгоравіч...

Сёння можна канстатаваць: адыход Барыса Ельцына стаў непрыемным сюрпрызам для Аляксандра Лукашэнкі. Крамлёўскія планы кіраўніка беларускай дзяржавы адкладаюцца, як мінімум, на чатыры гады. Натуральна, такі паварот падзеяў засмуціў беларускага лідара настолькі, што ён не здолеў стрымаць эмоцыяў. У сваім навагоднім выступленні па Беларускім тэлебачанні ён выглядаў расстроеным, нейкім стомленым і разгубленым. А на наступны дзень у інтэрв'ю ГРТ беларускі лідар прызнаў, што адыход Барыса Ельцына разладзіў ягоныя асабістыя планы заняць пасаду прэзідэнта Саюза Расеі і Беларусі. Зразумела, усіх цікавіць пытанне: якім чынам паўплывае змена расейскай сітуацыі на інтэграцыйныя планы беларускага лідара? Мяркуецца, магчымыя некалькі варыянтаў дзеянняў.

Першы варыянт, пры якім у беларуска-расейскіх адносінах істотна нічога змяняцца не будзе. Не будзем забывацца на тое, што Аляксандру Лукашэнку зараз усяго 45 гадоў. А гэта значыць, што ён цалкам можа працягваць інтэграцыйную палітыку і захоўваць надзею на ўдзел у маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Для гэтага, як і раней, належыць разыгрываць інтэграцыйную карту. Праўда, зараз гэта будзе цяжэй, чым тады, калі беларускі кіраўнік адмыслова выкарыстоўваў супярэчанні паміж Думай і Крамлём.

Што да ступені інтэграцыі, то яна будзе залежаць ад таго, якім чынам складзецца палітычная сітуацыя ў самой Расеі. Чым больш трывалымі будуць пазіцыі новага прэзідэнта (мабыць, Уладзіміра Пуціна), тым меншая ступень аб'яднання будзе выгаднай Аляксандру Лукашэнку. І наадварот, чым горш будуць справы ва ўладаў у Расейскай Федэрацыі, тым больш карысным для беларускага лідара будзе «паглыбляцца» ў Расею, спадзеючыся на выбарах у 2004 годзе стаць лідарам расейскай апазіцыі. Тым больш, што да 26 сакавіка 2000 года Уладзімір Пуцін, відавочна, будзе на словах падтрымліваць інтэграцыйныя настроі Аляксандра Лукашэнкі.

Другі варыянт, пры якім новы расейскі прэзідэнт паставіць беларускага лідара перад выбарам: альбо Беларусь цалкам уваходзіць у склад Расейскай Федэрацыі на правах суб'екта гэтай Федэрацыі, альбо робіць фактычна тое ж, але ўваходзіць абласцямі (план Анатоля Чубайса). Калі яна адмовіцца гэта зрабіць, тады давядзецца разлічваць толькі на свае даўгі, перш за ўсё за энерганосьбіты. Як заўважыў з гэтай прычыны Аляксандр Сасноў - міністр працы ва урадзе Міхаіла Чыгіра - «з усіх расейскіх прэм'ераў апошняга часу Уладзімір Пуцін, не ўлічваючы, бадай, Сяргея Кірыенку, самы правы. А правыя, як вядома, любяць і ўмеюць лічыць грошы». Ёсць, да таго ж, яшчэ і мытныя супярэчанні, барацьба за рынкі збыту ды іншыя рэчы, якія зусім не садзейнічаюць інтэграцыі.

Трэці варыянт прадугледжвае замену Аляксандра Лукашэнкі на пасадзе прэзідэнта Беларусі. Гутарка вядзецца пра тое, што новаму крамлёўскаму кіраўніку спатрэбіцца мецъ у Менску вернага паплечніка, які так жа заўзята служыць Маскве, як зараз Аляксандр Лукашэнка. Але паміж новым прэзідэнтам і сённяшнім павінна быць адно надзвычай важнае для Крамля адрозненне. Гэты чалавек абавязаны быць, па-першае, прадказальным, а па-другое, пазбаўленым уладных амбіцыяў. Менавіта на такога чалавека можа зрабіць стаўку і новы расейскі прэзідэнт. З тых, каго можна лёгка «раскруціць» у зададзеным кірунку, перш за ўсё вылучаюцца, бадай, двое: Міхаіл Мясніковіч ды Іван Караччэня, што, канешне, не выключае і з'яўленне іншай фігуры.

**Уладзімір Глод**

# «Беларусь - у Еўропу!»-5

**Прадстаўнікі арганізацыі «Малады Фронт» — моладзевага крыла БНФ — абвясцілі, што пачынаюць рыхтаваць чарговую, пятую па ліку, акцыю пратэсту «Беларусь — у Еўропу!».**

Яе традыцыйна ладзяць 14 лютага, у дзень Святога Валянціна. Удзельнікі акцыі мяркуюць абысці амбасады еўрапейскіх дзяржаваў, акрэдытаваных ў Менску, і перадаць петыцыю пратэсту супраць парушэння ў Беларусі правоў чалавека.

**Наталля Кулагіна**

# Мірон супраць акупантаў

Раніцай 12 студзеня 2000 году ў цэнтры Віцебску (ля «сініга дому») на лініі электраперадачы Мірон вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг. У цыдулцы, прычэпленай да беларускага сымбалю, цьвердзілася: ДАЛОЎ МАСКОЎСКІХ АКУПАНТАЎ! Мірон».

Віцяблянам, якія сьпяшаліся на працу, быў добра бачны нацыянальны сьцяг. У 8.45 яго зьнялі міліцыянты з дапамогай пажарнай машыны.

Трэба адзначыць, што амаль штодзённа на сьценах віцебскіх будынкаў зьяўляюцца надпісы кшталту: «Жыве Беларусь!», «Прэч расейскую арду!».

**Юрась Карпаў**

## Зварот Сакратарыяту ГА ТБМ імя Францішка Скарыны (з прычыны апублікавання афіцыйных вынікаў перапісу насельніцтва 1999 года)

Афіцыйныя вынікі перапісу насельніцтва 1999 года, распаўсюджаныя ў сродках масавай інфармацыі, засведчылі, што 82% грамадзянаў Беларусі назвалі мову сваёй нацыянальнасці роднай - гэта на 4% вышэй за паказчык перапісу 1989 года. Як вядома, перапіс меў месца ва ўмовах татальнай русіфікацыі, якая мэтанакіравана праводзіцца ў апошнія пяць гадоў. Сёння беларуская мова, фактычна, выцесненая з усіх сфераў ужытку. Афіцыйныя беларускія ўлады усялякім чынам фармуюць грамадскую думку, што Беларусь з'яўляецца часткаю Расеі, а яе жыхары - спрадвечна руская.

Расейская мас-культура і псеўданавукоўцы запаланілі нашу краіну. Ва ўладных структурах - большасць непісьменных чыноўнікаў, з дапамогай якіх адбываецца шырокамаштабная акцыя лінгвацыду. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца выступ з прычыны ратыфікацыі Саюзнай дамовы дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага схода РБ Руслана Ігнаціцчава, рускага паводле паходжання: «Наша радасць з нагоды аб'яднання рускіх павінна быць большай, чым радасць немцаў пасля падзення берлінскага муру... Калі я сказаў «аб'ядноўваюцца рускія», я не памыліўся. Пра гэта сведчыць гісторыя, у прыватнасці, тэксты Францішка Скарыны і надпісы на нямецкіх ды англійскіх мапах другога тысячагоддзя». Праўда, аўтар гэтай цытаты свядома ўтойвае, што за часамі Францішка Скарыны этнонім «рускі» не меў дачынення да жыхароў Маскоўскага княства, а распаўсюджваўся толькі на славянскія землі Вялікага княства Літоўскага.

Варта зазначыць, што падчас перапісу былі выяўленыя шматлікія парушэнні беларускага заканадаўства. Менавіта дзякуючы намаганням грамадскіх арганізацыяў і найбольш актыўных грамадзянаў у перапісных аркушы было ўнесенае канкрэтнае пытанне «Назваць сваю родную мову», а таксама былі выключаныя пытанні эканамічнага характару, што тычацца прыватнага жыцця грамадзянаў.

Нягледзячы на вышэйзгаданыя хібы ды шэраг іншых недахопаў, вынікі перасягнулі ўсе нашыя спадзевы. Каля сямі мільёнаў грамадзянаў назвалі беларускую мову роднай, з іх - 3 мільёны 683 тысячы карыстаюцца ёю ў паўсядзённым жыцці. Як бачым, курс на русіфікацыю, што вядзецца на ўсіх узроўнях уладных структураў, церпіць параз. Не маюць поспеху і шматлікія спробы паглынання Беларусі Расейскай Федэрацыяй. Таму падчас святкавання Юбілейнага Года Хрысціянства мы звяртаемся да суайчыннікаў і надалей абараняць свае права на самавызначэнне ды нацыянальную паўнавартаснасць.

Грамадзяне Беларусі ўжо зрабілі свой выбар на карысць мовы карэннай нацыі, далейшая справа - за Дзяржавай. Годзе ператвараць беларускі народ у манкуртаў! Патрабуем ад Дзяржавы як мага хутчэй забяспечыць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнай, дзеля чаго найперш стварыць неабходныя ўмовы для выкарыстання беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з вынікамі апошняга перапісу насельніцтва.

**Сакратарыят ТБМ**
**23.12.1999 г.**
**Менск**

## «Наезд»...

**Днямі абласная пракуратура вынесла папярэджанне рэдактару гомельскіх незалежных газет «Навіны Палесся плюс» і «Рабочы на Палессі» Уладзіміру Старчанку ў сувязі з тым, што ён нібыта парушае Закон аб друку. У папярэджанні пракуратура пагражае Уладзіміру прыцягненнем да адміністрацыйнай адказнасці па артыкулу 172 адміністрацыйнага кодэкса.**

Загадчыца аддзела пракуратуры па агульнаму нагляду Забела Тамара Антонаўна аргументацыю рэдактара адносна таго, што згаданыя выданні не з'яўляюцца сродкамі масавай інфармацыі (іх наклад менеј за 300 асобнікаў) і не трапляюць пад дзеянне Закона аб друку, успрыняць не пажадала.

Уладзімір Старчанка быў вымушаны напісаць на адваротным баку папярэджання наступнае: «Сродкаў масавай інфармацыі не выдаю. З высновай аб парушэнні Закона аб друку не згодны».

**Ядзвіга Копаць**

# На Гарадзеншчыне беларусаў стала больш

**У мінулы чацвер Абласное упраўленне статыстыкі абвясціла вынікі перапісу насельніцтва, які праходзіў у лютым 1999 года.**

Колькасць пастаяннага насельніцтва Гарадзенскай вобласці па матэрыялах перапісу склала 1185,2 тысячы чалавек. За час ад мінулага перапісу (які адбыўся ў 1989 годзе) насельніцтва вобласці ўзрасло на 21,6 тысячы чалавек.

Пачынаючы з 1993 года, смяротнасць насельніцтва перавышае нараджальнасць, што прывяло да таго, што з 1994 года колькасць насельніцтва штогод змяншаецца.

Перапісы ў Рэспубліцы Беларусь пачалі праводзіцца з 1959 года. За гэты час гарадское насельніцтва няўхільна прырастала, а сельскае скарачалася. У выніку колькасць сельскіх жыхароў склала 444 тысячы чалавек ці 37,5 працэнта ад усяго насельніцтва, гарадскіх жыхароў - 741 тысяча чалавек. Паводле меркаванняў сацыёлагаў, такія тэмпы урбанізацыі абумоўленыя міграцыяй і прыцягненнем вяскоўцаў на работу ў прамысловасць у горад.

У нашай вобласці 12 гарадоў і амаль чатыры з паловай тысячы сельскіх населеных пунктаў. Вёскі Верцялішкі, Азёры, Жыровіцы, Ражанка, Путрышкі - самыя вялікія ў вобласці. У кожнай з іх жыве больш за 2 тысячы чалавек. У большасці вёсак жыве ў сярэднім па 200-500 чалавек.

Некалькі словаў пра ўзроставую структуру гарадскога і сельскага насельніцтва. Частка дзяцей склала адпаведна 23 і 19 працэнтаў, працаздольнага насельніцтва 62 і 44 працэнты, пенсіянераў 15 і 37 працэнтаў. Адсюль вынікае, што на тысячу працаздольных у вёсцы прыпадае 1256, у горадзе 615 непрацаздольных чалавек.

Цікавыя дадзеныя наконт працягласці жыцця. Яна ў сярэднім складае 68,5 гадоў: 74,6 для жанчын і 62,6 для мужчын. З усяго насельніцтва вобласці мужчыны складаюць 47,2 працэнты, жанчыны трохі больш - 52,8 працэнтаў. Аднак на суадносінах мужчын і жанчын шлюбнага ўзросту гэта непасрэдна не адбіваецца: ва ўзросце да 40 гадоў усе роўна перавышаюць мужчыны. А ў сельскай мясцовасці мужчын больш, чым жанчын ва ўзросце аж да 50 гадоў.

Адпаведна дадзеным перапісу, у вобласці налічваецца амаль 295 тысяч сямейных параў, што менш за лічбу апошняга перапісу на 5 тысяч. У 1999 годзе у шлюбе знаходзілася 590 тысяч чалавек, з агульнай колькасці сямейных пар 2,8 працэнтаў прыпадае на незарэгістраваныя шлюбы. Усяго па вобласці колькасць разведзеных жанчын складае амаль 37 тысяч чалавек, 23,3 тысячы мужчын.

Цікавай акалічнасцю апошняга перапісу стала тое, што больш стала людзей, якія лічаць роднай мовай беларускую - 73 працэнта насельніцтва вобласці, ці на 4,5 працэнта больш, чым дзесяць год таму. Увогуле на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці пражывае 87 нацыянальнасцяў. З іх беларусаў 62 працэнты, палякаў 25 працэнтаў, рускіх 10 працэнтаў, украінцаў 2 працэнты і меней за 1 працэнт татараў, яўрэяў, літоўцаў ды іншых. На беларускай мове размаўляюць дома 636 тысяч чалавек ці больш за палову насельніцтва вобласці.

**Алена Сіневіч**

# Удалы дэбют ліцэістаў

**З 5-га студзеня ў галерэі «Тызенгаўз» працуе выстава пад вельмі змястоўнай назвай «Гарадзенскі ліцэй N1: Калі ласка!»**

У дзвюх залах галерэі размясціліся творы навучэнцаў гэтай установы, зробленыя ў самых розных жанрах. Такая разнастайнасць самым лепшым чынам характарызуе «броўнаўскі рух» творчых пошукаў ліцэістаў.

На вернісажы была вельмі прадстаўнічая публіка: прадстаўнікі аддзелаў адукацыі і культуры гарвыканкамаў, кіраўніцтва ліцэя, калегі-выкладчыкі з універсітэта. Усе выступоўцы выказваліся на адрас маладых дэбютантаў даволі прыхільна. Адміністрацыя горада ў асобах Ганны Пшанічнавай (намесніцы старшыні адміністрацыі Ленінскага раёна), Ірыны Кліменкі (загадчыцы аддзела культуры гарвыканкама) ды іншых дзякавалі педагогам за выдатную працу і таленавітых вучняў.



Аляксандр Ларыёнаў (злева) і загадчыца кафедры выяўленчага мастацтва ліцэя Наталля Жэўнова ў атачэнні калегаў і вучняў

Гэтая выстава - першая імпрэза такога кшталту за чатыры гады працы ліцэя N1. Гэтая навучальная ўстанова пачала працу першага верасня 1996 года з мэтай рыхтаваць студэнтаў па розных навучальных профілях для ГрДзУ імя Янкі Купалы ды іншых ВНУ рэспублікі. Сёння тут вучацца адораныя і таленавітыя дзеці горада і вобласці. Ліцэй дазваляе завяршыць сярэднюю адукацыю на больш высокім якасным узроўні. Ліцэісты маюць магчымасць выбраць пэўны накірунак - фізічны, філалагічны, мастацкі ці які іншы - у якім яны будуць удасканальваць свае веды на працягу апошніх двух гадоў школьнай праграмы.

На выставе паказаны творы навучэнцаў 10 і 11 класаў мастацка-педагагічнай паралелі. Багацце жанраў і разнастайнасць выяўлення творчых задумаў маладых мастакоў абароняць любога гледача ад маркоты падчас агляду. Адразу ля ўвахода ў галерэю размясціўся куток дробнай пластыкі. Тут выстаўленыя творы з самага цёплага для чалавека матэрыялу - гліны. На століках і стэндах месцяцца скульптуркі, пано, нават арыгінальныя ўпрыгожванні, кулоны з гліны. Далей ідзе буянства фарбаў і сюжэтаў у графіцы, жывапісе, змешанай тэхніцы.

Павел Сасімовіч з 11 класа, які паказаў шмат твораў, проста на дзіва яскрава выявіў у «Кампазіцыі» алоўкам калматага ката, нацятага перад скокам. Барыс Папчынскі ў «Галгофе», напэўна, спрабаваў засвоіць метад сюррэалізму. Мудрагелісты расклад цвікоў на ягонай карціне нечым нагадвае «Атамістычны крыж» Далі. Улюбёная тэма ліцэістаў - гісторыя Гродна. На выставе шмат сюжэтаў, звязаных з мінулым горада і асаблівая ўвага нададзена Каложы. Яна выяўляецца нават у плакатах. Дарэчы, плакатнае мастацтва распавядае пра самыя актуальныя праблемы маладых. Як вынікае з плакатаў «Будучае без Каложы?», «Чорная быль», «Купляй СНД», моладзь сёння азадачана пераважна мясцовымі праблемамі, а не пытаннямі міжнароднага супрацоўніцтва. Дарэчы, навязлівасць плакатаў змякчаецца батыкам, які месціцца побач, у малой зале. Батык - роспіс па тканіне - паказаны дэкаратыўнымі вузельчыкавымі кампазіцыямі і шыкоўнымі экзатычнымі кветкамі.

Выстава ліцэістаў будзе доўжыцца даволі доўга - ажно да 13 лютага.

Не так даўно галерэя «Тызенгаўз» памяняла рэжым працы. Цяпер тут выхадны дзень - панядзелак, а ў суботу і нядзелю адчынена з 11 да 15 гадзін. У астатнія дні галерэя працуе з 11 да 19 гадзін з перапынкам на абед з 15 да 16 гадзін.

**Алена Сіневіч**

# «Аслона» бароніць, ратуе, дапамагае...

**У Ваўкавыску другі год працуе праваабарончы цэнтр «Аслона».**

Цэнтр «Аслона» правёў шмат семінараў і лекцыяў на праваабарончыя тэмы. Акрамя адукацыйна-асветніцкай дзейнасці «Аслона» аказвае бясплатную юрыдычную дапамогу насельніцтву. Штодня юрыст праваабарончага цэнтра вядзе прыём грамадзянаў.

У наш складаны час грамадзяне звяртаюцца ў «Аслону» па самых розных пытаннях, што ўмоўна падзяляюцца на некалькі груп. Першая з іх - гэта парушэнне працоўнага заканадаўства працадаўцамі. Так, у праваабарончы цэнтр «Аслона» звярнуўся жыхар Ваўкавыска, грамадзянін М., які працаваў у прыватнага прадпрымальніка. Грамадзянін М. працаваў шафёрам-экспедытарам. Паводле ведамасці прыватны прадпрымальнік выплочваў заробную плату ў адзін мільён рублёў, а фактычна заробак быў значна вышэй. Праз пэўны час шафёра звольнілі нібыта па ўласнаму жаданню. Ніякія перамовы з прыватным прадпрымальнікам вынікаў не далі. Праваабарончай прыёмнай была падрыхтавана спазыковая заява ў суд. У выніку грамадзянін атрымаў свае заробленыя грошы, у тым ліку і за нескарыстаны водпуск.

У дадзеным выпадку не спатрэбілася нават судовага пасяджэння, было дасягнута мірнае пагадненне. Трэба адзначыць, што парушэнне працоўнага заканадаўства найбольш характэрнае для прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці і абумоўлена цяжкім эканамічным становішчам. Тлумачыцца гэта яшчэ і тым, што сёння працу знайсці няпроста, і таму працадаўцы ігнаруюць працоўнае заканадаўства. У некаторых выпадках дастаткова растлумачыць кіраўніку прадпрыемства парушэнне заканадаўства - і канфлікт вырашаны. У другіх выпадках, калі таксама непаразумення няма, «Аслона» даводзіць справу да суда. Найбольш цяжкія справы - гэта скаргі на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі, асабліва ў сельскай мясцовасці. Такія скаргі былі з вёсак Араны, Ендрыхаўцы. Тлумачыцца гэта нізкай прафесійнай падрыхтоўкай супрацоўнікаў міліцыі і недасканаласцю закона «Аб міліцыі». Гэты закон даў шмат правоў супрацоўнікам міліцыі і, на вялікі жаль, мала прадугледжвае адказнасць міліцыянтаў за свае дзеянні. Калі супрацоўнік міліцыі злоўжывае сваімі правамі, а чалавек спрабуе абараніць сваю годнасць. Недобрасумленныя міліцыянты могуць абвінаваціць яго ў чым заўгодна, а ў якасці сведак зноў выступяць тыя ж міліцыянты.

Але і ў такіх умовах можна абараніць свае правы, галоўнае - жаданне самога чалавека давесці справу да канца.

У праваабарончы цэнтр «Аслона» звярнуўся грамадзянін П., які 1.10.99 года ў вёсцы Араны разам з 86-гадовым цесцем капаў бульбу. Да іх падышоў лейтэнант міліцыі, які не прадставіўся і запатрабаваў, каб грамадзянін П. напісаў тлумачальную запіску. (Напярэдадні ў вёсцы была абрабавана бібліятэка). Грамадзянін П. запатрабаваў растлумачыць, за што ён павінен пісаць тлумачэнне, калі ён ні ў чым не вінаваты. У адказ лейтэнант міліцыі з балончыка пырскнуў яму ў твар газам і пачаў збіваць... Абараніць зяця спрабаваў ягоны 86-гадовы цесць, але дасталося і яму. У выніку на грамадзяніна П. надзелі кайданкі. Была зламана рабрына, разбіты твар. Тры дні грамадзяніна П. пратрымалі ў міліцыі, на чацвёрты яго прывезлі ў суд, дзе суддзя пакараў яго штрафам на 7,5 мільёна рублёў. Зараз грамадзянін П. атрымаў медычнае заключэнне ад судмедэксперта і накіраваў скаргу ў міжрайпракуратуру і абласны суд аб адмене адміністрацыйнага пакарання і прыцягнення да адказнасці лейтэнанта міліцыі.

У праваабарончую прыёмную звярнулася грамадзянка А., які працуе настаўнікам у калгасе «Імя Заслонава». Адміністрацыя калгаса адмовіла яму ў прыватызацыі жылля, хаця такая магчымасць ёсць у простых калгаснікаў. Трэба адзначыць, што ў суседніх гаспадарках настаўнікі, выхавальнікі, работнікі культуры маюць магчымасць прыватызаваць жыллё. Такім чынам, старшыня калгаса падзяліў людзей на сваіх і чужых, правёўшы такое рашэнне праз калгасны сход. Для прыватызацыі жылля неабходна згода ўласніка жылля, - у дадзеным выпадку ім з'яўляецца калгас. Вось і атрымліваецца, што недасканаласць закона, а таксама воля «гаспадара» пазбаўляюць людзей права набыць жыллё ва ўласнасць.

Шмат зваротаў грамадзянаў і па іншых пытаннях, якія не заўсёды тычацца правоў чалавека, але ўсім аказваецца дапамога, бо не заўсёды чалавек можа звярнуцца ў адвакатуру - паслугі юрыста каштуюць нямала.

Улічваючы цяжкі эканамічны стан у нашай краіне, грамадскае аб'яднанне абароны правоў падаткаплацельшчыкаў і спажыўцоў «Аслона» аказвае юрыдычную і адукацыйна-асветніцкую дапамогу бясплатна. У «Аслону» можна звярнуцца на адрас: 231900, г.Ваўкавыск, вул.Савецкая, 34; альбо па тэлефоне 2-76-89.

**Уладзімір Мікуліч**

# Улады праграмуюць беспрацоўе

Мастоўскі райвыканкам на сваім пасяджэнні разгледзеў праграму занятасці насельніцтва раёна на 2000-ы год. Паводле яе прадугледжваецца, што ў цэнтр занятасці звернецца 1400 чалавек, аднак толькі 680 з іх павінны быць працаўладкаваны, а 350 атрымаюць грашовую дапамогу, але ў выпадку, калі пэўную колькасць дзён адпрацуюць на добраўпарадкаванні горада ці ў калгасе. На першае студзеня 2000 года на ўліку ў цэнтры занятасці стаяла 400 беспрацоўных.

**Язэп Палубятка**

# Навагоднія клопаты паштавікоў

Новы год прыносіць не адны прыемныя клопаты. Напрыклад, надыход 2000 года прымусіў занепакоіцца не толькі спецыялістаў электрасувязі, якія баяліся, што нашыя дапатопныя камп'ютары пры змене «дзевятак» на «нулі» будуць паводзіць сябе непрадказальна. Турбаваліся і работнікі пошты, каб не здзейсніць лішніх выдаткаў, бо належала правесці замену ўсіх паштовых штэмпеляў, дзе пазначаецца дата.

**М.Карпейчык**

# Не лунае «Сцяг Саветаў»

Можна толькі здагадвацца, які стан справаў у калгасе «Сцяг Саветаў» Лідскага раёна. Мусіць, не ад добрага жыцця ў афіцыйным друку суседніх з Лідаю раёнаў з'явіліся аб'явы, што гаспадарцы патрабуюцца на працу не толькі простыя калгаснікі: механізатары, даяркі, але і спецыялісты, прычым у значнай колькасці. Гаспадарцы патрэбны два загадчыкі ўчастка, два інжынеры-механікі, галоўны заатэхнік, заатэхнік-селекцыянер. Як заўжды ў такіх выпадках, вабяць кватэрамі.

# БПСМ - адзначыўся

На Новы год усе хочуць мець падарункі. Асабліва яны цешаць дзяцей-сіротаў ды інвалідаў. Здзейсніць такое мерапрыемства, як навагодняя елка, зараз фінансава складана. І таму, як правіла, мерапрыемствы гэтыя праводзіцца ў складчыну. Сёлета на правядзенне свята для гэтай катэгорыі дзяцей Мастоўскім райвыканкамам было выдаткавана 252 мільёны рублёў, прафсаюзам райаграпрамхарчу - 55 мільёнаў. Не застаўся ў баку і мясцовы райкам БПСМ. Ён таксама засведчыў свой клопат пра гаротных, але пры гэтым пашкадаваў казённых грошай, на якія, дарэчы, утрымліваецца пяць штатных адзінак ды перапічыў дзеткам...10 мільёнаў рублёў. Хлопцы працуюць добрымі старымі метадамі: галоўнае не дапамога, а ўдзел. За тое гаворкі пра дапамогу хопіць на цэлы год.

**Язэп Палубятка**

# Першыя ахвяры высакоснага года

Высакосны год адкрыў лік першым трагедыям на Мастоўшчыне. Калі само святкаванне новага года прайшло спакойна, без здарэнняў, то некалькімі днямі пазней скончыў жыццё самагубствам жыхар вёскі Кульшычы 22-гадовы С. Днём пазней памёр у шпіталі ад атрыманых ранаў 32-гадовы мастаўчанін К. Ён намагаўся перелезці з аднаго балкона шматпавярховага дома на другі, але сарваўся.

**М.Карпейчык**

# Перамаглі Белавічы

Ужо некалькі гадоў у вобласці праходзіць конкурс-агляд па добраўпарадкаванню населеных пунктаў Гарадзеншчыны. Сёлета сярод сельскіх населеных пунктаў па першай групе з насельніцтвам да 200 чалавек другое месца прысуджана вёсцы Белавічы Зарудаўскага сельсавета Мастоўскага раёна. Такое рашэнне камісіі ў многіх выклікала здзіўленне, бо акрамя дома састарэлых, дзе таксама пражываюць псіхічна хворыя людзі, тут месціцца не болей за пяць дамоў. Жыхары раёна звычайна дадаюць назву гэтага населенага пункта ў гутарцы, калі хочуць ахарактарызаваць псіхічны стан чалавека.

**Ул. інф**

# Прызначэнні, прызначэнні...

Першым намеснікам старшыні Мастоўскага райвыканкама, начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання прызначаны Сяргей Штарноў. Да гэтага ён працаваў ветэрынарным урачом у калгасе «Прагрэс» Гарадзенскага раёна. Гэтая гаспадарка і кіраўніцтва Мастоўскага раёна маюць цесныя сувязі. У свой час, калі была забаронена КПСС і штатныя партфункцыянеры засталіся без працы, першы сакратар Мастоўскага райкама Васіль Равяка знайшоў там сабе прыстанак, а Аляксандр Дубко заняў пасаду старшыні аблвыканкама, узначаліў гаспадарку.

Сяргей Штарноў замяніў Адама Кавалька, які некалькі месяцаў таму ўзначаліў Астравецкі райвыканкам. Сяргею Штарнову ў спадчыну ад былога намесніка застаўся недабудаваны катэдж. Ён ужо другі год узводзіцца побач з катэджамі старшыні райвыканкама, начальніка міліцыі, генеральнага дырэктара АТ «Мастыдрэў».

**М.Падгайны**

# Узнагарода знайшла мінёра

**Учора следчым аддзяленнем па Гарадзенскаму раёну распачата крымінальная справа супраць «ананімных мінёраў».**

Студэнт 4-га курсу Гарадзенскага дзяржуніверсітэта і яго равеснік, 23-гадовы беспрацоўны жыхар абласнога цэнтра абвінавачваюцца ў тым, што 11 лістапада мінулага года ў 4 гадзіны 25 хвілін пазванілі вартаўніку кансервавага завода, размешчанага ў вёсцы Калбасіна Гарадзенскага раёна, і паведамілі пра выбух, які рыхтуецца на тэрыторыі завода. Ніякай выбуховай прылады на прадпрыемстве не было знойдзена.

Студэнт універсітэта затрыманы і змешчаны ў следчы ізалятар.

**Ася Куніцкая**

# Рыхтуемся сеяць ужо ў студзені

**Ужо ў пачатку студзеня 2000 года Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў праект Пастановы «Аб першачарговых мерах па падрыхтоўцы сельскагаспадарчых прадпрыемстваў да веснавых палявых работ і стварэнню трывалай кармавой базы ў 2000 годзе».**

Сапраўды, праект пастановы актуальны як ніколі. Планы 1999 года па аграрных артыкулах выкананыя на 60-70 працэнтаў. Нарыхтоўка зерня, напрыклад, склала ў мінулым годзе 3,8 мільёна тон замест запланаваных шасці мільёнаў тон, нарыхтоўка бульбы - сем мільёнаў тон замест запланаваных 8,5 мільёна тон. Не выкананы план па льновалакну амаль у два разы, а менавіта 44 працэнты ад пляну ад планаемых ста працэнтаў (45 тысяч тон). Таксама ў 1999 годзе засмучальна выглядаў стан справаў з забеспячэннем кармамі - усяго 53 працэнты ад плану, так што не дзіўна выглядае зімоўка «віцебскай» буйной рагатай жывёлы ў Гомельскай вобласці.

Такім чынам, Савету Міністраў Беларусі неабходна было тэрмінова скарэктаваць прагнозы на 2000 год. Што ўрад і спрабуе зрабіць пасля распрацавання вышэйзгаданай пастановы. Згодна з ёю, у 2000 годзе Савет Міністраў Беларусі лічыць за неабходнае забяспечыць стварэнне ўмоваў для прыросту аб'ёмаў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў параўнанні з 1999 годам на 5-6 працэнтаў: прадукцыі раслінаводства - на 11,2-12,9 працэнта, прадукцыі жывёлагадоўлі - на 0,4-1,0 працэнта, нарыхтаваць зерня не менш як 5,7 мільёна тон, цукровых буракоў - 1,45 мільёна тон, льновалакна - 50 тысяч тон, бульбы - 7 мільёнаў тон, вытворчасць малака ў аб'ёме 488 тысяч тон і так далей.

Паводле пастановы запланавана ўдасканальваць структуры пасяўных плошчаў: павялічыць пасевы пшаніцы - да 400 тысяч гектараў, зернебабовых - да 304 тысяч гектараў, бульбы - да 91 тысячы гектараў, кармоў карняплодаў - да 76 тысяч гектараў і г.д.

Пад веснавую пасяўную канцэрн «Белнафтахім» і Мінсельгасправ абавязаны паставіць сельскагаспадарчым прадпрыемствам ў студзені-ліпені 2000 года 470 тысяч тон дызельнага паліва, 170 тысяч тон аўтамабільнага бензіну, 16 тысяч тон масла для рухавікоў.

Як бачым, планы становяцца больш апетытнымі ў параўнанні з мінулым годам. Аднак планы планамі, а вынікі ў аграпрамысловым комплексе ў 1999 годзе выглядалі не лепшым чынам. Што нам прынясе 2000 год?

# Крызіс знешняга гандлю

**За мінулы 1999 год у Рэспубліцы Беларусь склалася адмоўнае сальда знешняга гандлю ў памеры 569,3 мільёна далярав ЗША...**

Паводле дадзеных, прадастаўленых нам аналітычным цэнтрам «Рынкавая эканоміка», аб'ём знешняга гандлю Рэспублікі Беларусь склаў прыблізна 12 мільярдаў даляраў ЗША, што на чвэрць менш за ўзровень 1998 года. Аб'ёмы з года ў год падаюць, і ў асноўным з-за скарачэння экспартна-імпартных аперацый беларускіх суб'ектаў гаспадарання з суб'ектамі гаспадарання Расейскай Федэрацыі. Нават адпаведна афіцыйным крыніцам, за апошнія 12 месяцаў агульны таваразварот Рэспублікі Беларусь з Расейскай Федэрацыяй знізіўся з 7,45 да 5,69 мільярда даляраў ЗША, альбо амаль на 30 працэнтаў.

Такое зніжэнне не магло застацца па-за ўвагай беларускіх уладаў. Апошняе пасяджэнне ў 1999 годзе Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь было прысвечана новай Нацыянальнай праграме развіцця экспарту на 2000-2005 гады. У сваю чаргу прэзідэнт Беларусі выдаў Указ N731, які ўстанаўлівае аб'ём знешняга гандлю на 2000 год 101-102 працэнты, экспарту 102-103 працэнты ды імпарту 100-102 працэнты. Аднак нават не эканамісту зразумела, што павелічэнне ў 2000 годзе аб'ёму знешняга гандлю на 1-2 працэнты не здолее нагнаць зніжэнне, напрыклад, аб'ёму гандлю з Расейскай Федэрацыяй на 30 працэнтаў. Такім чынам, відавочны крызіс знешняга гандлю Рэспублікі Беларусь, які даволі цяжка будзе нават злёгку прыпыніць, не кажучы ўжо пра вяртанне на ўзровень мінулых гадоў.

Тым не менш, ёсць і станоўчыя тэндэнцыі ў знешнім гандлі Рэспублікі Беларусь. Гэта павелічэнне аб'ёму экспартна-імпартных аперацыяў з Германіяй, Латвіяй, Італіяй, Вялікабрытаніяй ды некаторымі іншымі дзяржавамі. У цэлым, аб'ём знешняга гандлю Беларусі, узяты за 100 працэнтаў, падзяляецца на пачатак студзеня 2000 года наступным чынам:

1. Расейская Федэрацыя - 53,9 працэнта;
2. Германія - 7,8 працэнта;
3. Украіна - 5,7 працэнта;
4. Польшча - 3,5 працэнта;
5. Латвія - 2,6 працэнта;
6. Літва - 2,1 працэнта;
7. Італія - 1,9 працэнта;
8. Вялікабрытанія - 1,6 працэнта;
9. ЗША - 1,5 працэнта;
10. Кітай - 1,5 працэнта;
Іншыя дзяржавы - 17,9 працэнта.

Крызіс знешняга гандлю Рэспублікі Беларусь, на жаль, абумовіў павелічэнне запазычанасці прадпрыемстваў ды іншых гаспадарчых суб'ектаў Беларусі краінам СНД. На пачатак студзеня 2000 года, паводле дадзеных аналітычнага цэнтру «Рынкавая эканоміка», запазыка склала прыблізна 180 трыльёнаў беларускіх рублёў. Болей за ўсё гаспадарчыя суб'екты Беларусі вінаватыя Расейскай Федэрацыі (яе суб'ектам гаспадарання) - амаль 90 працэнтаў ад вышэйуказанай сумы. Амаль па 500 мільярдаў рублёў беларускія прадпрыемствы завінаваціліся Кіргізіі, Малдове, Азербайджану і нават Таджыкістану - 150 мільярдаў беларускіх рублёў. Доўг прадпрыемствам Украіны на пачатак студзеня 2000 года перасягнуў адзнаку ў шэсць трыльёнаў беларускіх рублёў.

Як бачым, сітуацыя пагаршаецца штодня. І канешне ж, не толькі ў знешнім гандлі. Беларусь ужо амаль шэсць гадоў знаходзіцца ў чаканні карэнных эканамічных рэформаў.

**Сяргей Міронаў**

# Вылегчаная лібералізацыя валютнага рынку

**У нядзелю, 9 студзеня, даляр ЗША на наяўным валютным (усё яшчэ чорным) рынку перасягнуў адзнаку ў 900 тысяч беларускіх рублёў, а нямецкая марка наблізілася да эквіваленту ў 500 тысяч беларускіх рублёў.**

| Дата | Купля $ЗША | Продаж $ЗША |
|---|---|---|
| 4 студзеня | 800-820 000 | 825-840 000 |
| 6 студзеня | 810-830 000 | 835-850 000 |
| 8 студзеня | 820-840 000 | 850-860 000 |
| 9 студзеня | 870-890 000 | 900-910 000 |
| 10 студзеня | 890-900 000 | 905-920 000 |
| 11 студзеня | 860-870 000 | 880-900 000 |
| 12 студзеня | 860-870 000 | 880-900 000 |

Заўвагі: 1. Інфармацыя па г.Менску;
2. У недэмінаваных рублях.

Ужо сёння бачна, што лібералізацыя валютнага рынку, абвешчаная Нацыянальным банкам і Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, фактычна вылегчаная. Чэргі каля абменных пунктаў, немажлівасць набыцця валюты ні ў Нацыянальнага банка, ні ў камерцыйных банкаў, «заніжэнне» абменнага курсу беларускага рубля ў дачыненні да цвёрдых валютаў, значная розніца паміж курсам Нацыянальнага банка ды курсам наяўнага і безнаяўнага беларускага рубля - усё гэта паўплывала на ўказаную намі вышэй выснову.

За апошнюю дэкаду была наступная тэндэнцыя ў галіне «ўмацавання» нацыянальнай грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь:

Як бачым, 11 студзеня з'явіліся некаторыя надзеі на стабілізацыю беларускага рубля?..

Гарадзенскія «чорныя» рынкі млява адрэагавалі на змены на валютных рынках. Аднак у аўторак і ў Гродне курс даляра ЗША наблізіўся да адзнакі ў 900 000 беларускіх рублёў.

У сераду, 12 студзеня, значна абясцэніўся расейскі рубель у дачыненні да даляра ЗША, устаноўлены Цэнтральным банкам Расейскай Федэрацыі і склаў 28 рублёў 84 капейкі.

У абменных пунктах Масквы і Санкт-Пецярбурга 12 студзеня продаж даляра ЗША вёўся ў межах 30 расейскіх рублёў за адзін даляр.

**Кацярына Зволін**

# У лютым прадпрымальнікі будуць страйкаваць

**1 лютага пачнецца страйк прадпрымальнікаў, якія працуюць на рынках рэспублікі. Рашэнне пра пачатак акцыі, якая працягнецца не менш за месяц, было прынята на прайшоўшай у Менску 10 студзеня агульнарэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў прадпрымальніцкіх структур і арганізацый, якая адбылася ў Менску 10 студзеня з удзелам прадстаўнікоў усіх рэгіёнаў краіны.**

Як паведаміў старшынствуючы на нарадзе, член Савета Свабоднага прафсаюза Беларускага Валерый Леванеўскі, удзельнікамі мерапрыемства прад'яўлены шэраг патрабаванняў. Сярод іх: адмена 20-працэнтнага падатку на дабаўленую вартасць для прадпрымальнікаў, якія плацяць фіксуемыя стаўкі падатку і лічаць новы падатак падаткам з абароту; адмена абавязковай сертыфікацыі, якая вядзе да павышэння кошту тавараў; вяртанне да фіксаваных ставак падатку ўзроўню снежня 1999 года; аб'яўленне мараторыя на змяненне фіксаваных ставак падатку; спрашчэнне бухгалтарскага ўліку для асобаў, якія плацяць фіксаваны падатак; адмена некаторых дэкрэтаў кіраўніка дзяржавы; спыненне вымагальніцтва з боку дзяржчыноўнікаў, работнікаў міліцыі, падатковых кантралёраў, адміністрацыі рынкаў і г.д.

**Алег Сакалоў**

# Сірочы хлеб прыватнага прадпрымальніка

**Што жыццё - жорсткая рэч, Тарэза Чачко даведалася змалку. З першага дня жыцця яна - сірата, якую кінулі бацькі. Аднак гэта быў не апошні ўдар лёсу. З зайздросным пастаянствам дзяўчыну «кідае» і родная дзяржава.**

Сітуацыя, у якой апынулася маладая жыхарка Гродна Тарэза Чачко, вельмі падобная на сюжэт з якога-небудзь рамана абсурду. З той розніцай, што дзяўчыне даводзіцца жыць па правілах рэальнага свету. Няхітрая калізія ў тым, што на дзяўчыне «вісіць» доўг дзяржаве ў памеры 200 мільёнаў рублёў. І гэты доўг яна нават пры вялікім жаданні выплаціць не можа: тавар на суму 1000 даляраў, які Тарэза ўзяла на рэалізацыю, быў «своечасова» скрадзены са склада. Міліцыя да гэтай пары злодзяў не знайшла. А гаспадар тавару са свайго боку патрабуе кампенсаваць страты, пагражаючы ўключыць «лічыльнік». Атрымалася, што ўсім завінавацілася, а чым расплочвацца - невядома.

Гераіня нашага аповеду - сірата. Бацькі, не жадаючы браць на сябе цяжар выхавання свайго дзіцяці, кінулі яе на ўтрыманне дзяржавы. Такім чынам, дзяўчына, не паспеўшы пазнаць маці і бацьку ў твар, стала сацыяльнай сіратой. Сацыяльным сіроцтвам у нас называецца з'ява, калі дзеці выхоўваюцца ў дзетдамах пры жывых бацьках. Катастрафічны рост сіроцтва ў Беларусі адлюстроўваюць лічбы: кожны год становіцца на 1,5-2 тысячы сірот болей; 90 працэнтаў ад дзяцей-сірот - сацыяльныя сіроты; два працэнты ўсіх беларускіх дзяцей растуць без бацькоў.

Дык вось, месца нараджэння Тарэзы - вёска Лапенеўцы Браславіцкага раёна. Сярэднюю адукацыю яна атрымала ў Смаргонскай школе-інтэрнаце. Цвярозы памеркаваўшы, што ў век навукова-тэхнічнага прагрэсу краіне да зарэзу патрэбны кваліфікаваныя спецыялісты, дзяўчына паступае ў Брэсцкі політэхнічны інстытут і паспяхова яго заканчвае. Атрыманыя вышэйшую адукацыю і выдатную спецыяльнасць - інжынер-праграміст - Тарэза Чачко працуе ў прыватных фірмах сакратаркай, займае розныя пасады, пакуль нарэшце не становіцца менеджэрам аддзела ў адной камп'ютарнай фірме. Здавалася б, бліскучы кар'ерны рост і дабрабыт забяспечаны. Дык не - эканамічная палітыка ўрада правакуе развал маладога беларускага бізнесу, банкрутуюць і зачыняюцца прыватныя фірмы. Тарэза разам са сваёй кваліфікацыяй і досведам работы аказваецца нікому не патрэбнай. У выніку - рэгістрацыя на біржы працы ў якасці беспрацоўнай.

Аднак дзетдомаўская загартоўка не праходзіць дарма. Хочаш выжыць - рвіся з апошніх жылаў, як тая жабка ў гарлачы са смятанай: мо і саб'еш камяк масла. Тарэза - маладая, поўная моцы дзяўчына, жадае працаваць і самастойна зарабляць сабе на жыццё. Яна за свае грошы рэгіструе прыватнае прадпрыемства, заканчвае бухгалтарскія курсы. Пачынае гандлёва-закупачную дзейнасць: бярэ на рэалізацыю буйныя партыі прадуктаў. Аднак у выніку бурнай дзейнасці малады «прыватны прадпрымальнік» («ПП») не зарабляе, а аказваецца вінен грошы. У выніку праверкі інспекцыя дзяржаўнага падатковага камітэта Ленінскага раёна знаходзіць «шэраг парушэнняў ва ўліку», што стала прычынай заніжэння даходу. Фінансавыя санкцыі склалі 200.051.000 рублёў. Суддзя раённага суда Ільюшэнка прысудзіла: доўг аддаць. Аднак паколькі аддаваць няма чым - вырашылі канфіскоўваць маёмасць. Як высветлілі судовыя выканаўцы, «ПП» не зарабіла не толькі на больш-менш прыстойнае жытло, але і на нейкія каштоўныя рэчы. Як гаворыць Тарэза, «калі стала «ПП», я нічога сабе не купіла - усё ішло на падаткі. Нашай дзяржаве трэба абадраць чалавека да ніткі. І ўсё заканадаўства скіраванае на гэта». Наша прадпрымальніца жыве разам з суседкай у інтэрнацкім пакоі, «выбітым» з дапамогай Дзіцячага фонду, маючы толькі самае неабходнае: шафу, ложак, стол, тэлевізар адзін на дваіх.

Усё жыццё Тарэзы накіравана на тое, каб з найменшымі стратамі дамагчыся ў жыцці элементарных выгодаў. Гэта - закон джунгляў, якім вымушаны кіравацца не толькі сіроты, але і ўсе мы. Шчодрая дзяржава «гарантуе» ільготы сацыяльна неабароненым пластам насельніцтва. Усю прывіднасць гэтых гарантыяў наша гераіня зведала на сабе. Жыллёвы кодэкс гарантуе сіротам атрыманне сацыяльнага жылля - аднапакаёвай кватэры. Тарэза Чачко стаіць на чарзе ўжо 10 гадоў - а кватэры не прадбачыцца.

Тарэза нават не плануе выходзіць замуж, каб не страціць гэтых папяровых ільготаў. Смешна, але па закону, калі дзяўчынасірата выходзіць замуж, то з нейкіх прычынаў тут жа пераходзіць на ўтрыманне мужа і таму перастае мець патрэбу ў жыллёвых. Якая тут сувязь - невядома.

У гэты час Тарэза Чачко судзіцца з абласной падатковай камісіяй. Па яе просьбах Беларускі дзіцячы фонд паслаў хадайніцтва ў Дзяржкамісію пры Савеце Міністраў РБ па вызваленні суб'ектаў гаспадарання ад фінансавай адказнасці за парушэнне заканадаўства аб падатках, прадпрымальніцтве і спісанню запазычанасці па выплатах у бюджэт. У Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў абласны камітэт па прадпрымальніцтву за подпісам М.Логвіна даслаў старанне з просьбай «пасадзейнічаць з улікам цяжкага матэрыяльнага становішча». І Дзіцячы фонд, і аблвыканкам просяць прабачыць штраф у 200 мільёнаў, налічаны не за злоснае парушэнне законаў, а, па сутнасці, за ненаўмысную памылку ў бухгалтарскім уліку прыватнага прадпрымальніка. Перад Новым годам прыйшоў адказ з Дзяржкамісіі пры Саўміне: «адмоўлена ў вызваленні ад уплаты ў бюджэт фінансавых санкцыяў на суму 195,595 мільёна рублёў». Як бачым, разглядаючы лёс ЧАЛАВЕКА, дзяржаўны чыноўнік не паруліўся нават заглянуць у паперы, каб спраўдзіць суму штрафу, якую сірата прасіла ў сваёй дзяржавы даравацы! Атрымліваецца ЧЫНОЎНІКУ даравальна дапускаць памылкі, а звычайнаму чалавеку - не...

Хто ж выйграў у гэтай гісторыі? Выйгралі злодзеі, якія абрабавалі Тарэзу на тысячу «баксаў» і дагэтуль паспяхова хаваюцца. Выйграў дзяржбюджэт - ён чакае паступлення грошай са штрафу.

Выйграла, напэўна, падатковая камісія - выкрыла яшчэ аднаго «несумленнага» «ПП».

Усім выгада, акрамя аднаго непрыкметнага чалавека - Тарэзы Чачко. У яе забіраюць апошняе.

**Алена Сіневіч**

# Сцвярджэнне аб шматвекавым адзінстве Беларусі і Расеі - міф!

**Гісторыя афіцыйнага расейска-беларускага «яднання» - гэта тры стагоддзі фізічнага і два стагоддзі духоўнага вынішчэння нашага народа.**

Але пачнем з вытокаў гэтага міфічнага «адзінства». У XIII-XIV стагоддзях, на працягу прыкладна 125 гадоў, раздробленыя беларускія землі, над якімі вісела пагроза крыжацкай агрэсіі ды мангола-татарскага заняволення, аб'ядналіся разам з літоўскімі, утварыўшы новую еўрапейскую дзяржаву - Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, межы якога сягалі ад Балтыйскага да Чорнага мора, ад Заходняга Буга да вярхоўяў Акі і Волгі. Полацкае княства ўвайшло ў яе склад дагаворным шляхам - вялікія князі абавязаліся яго «старины не рушать» - і ўзбагаціла яе сваім багатым дзяржаўна-прававым досведам. Турава-Пінская зямля праз добраахвотнае далучэнне да новай дзяржавы пазбавілася залежнасці ад Галіцка-Валынскага княства, цераз якое залежала і ад Залатой Арды. Віцебскі ўдзел стаў часткай ВКЛ праз шлюб мясцовай князёўны з Альгердам. Ну а Гарадзеншчына наогул была ядром збірання балта-славянскіх земляў у адзіную дзяржаву. Наваградак - яе першая сталіца. Гістарычныя крыніцы не зафіксавалі ніводнага факту гвалтоўнага, сілай зброі, далучэння нашых земляў да ВКЛ, якое стала дзяржавай нашых продкаў - яны лічылі яе сваёй - і радзімай беларускага этнасу. Асновай яе эканамічнай, палітычнай і вайсковай магутнасці былі беларускія землі. У ёй пераважалі ўсходнеславянская тэрыторыя, насельніцтва, культурныя традыцыі. У духоўным жыцці дамінавала беларуская культура, якая не зведала такіх стратаў, як зруйнаваная мангола-татарскім нашэсцем украінская. Старабеларуская («руская» паводле гістарычнай тэрміналогіі) мова была дзяржаўнай у ВКЛ. ВКЛ - гістарычная форма беларускай дзяржаўнасці. У XIII - першай палове XIV стагоддзя яно было адзіным, што займалася збіраннем усходнеславянскіх земляў, і не мела ў гэтай справе суперніка.

У сярэдзіне XIV - першай трэці XV стагоддзя ідзе бурны рост ВКЛ у геаграфічнай і палітычнай прасторы сярэднявечнай Еўропы. Яно далучае Чарнігава-Северскае княства, Смаленск, які лавіраваў паміж Вільняй і Масквой, распаўсюджвае свой уплыў на Ноўгарад і Пскоў, уступае ў саюз і радніцца з Цверру ды імкнецца падпарадкаваць сабе Маскву, якая спачатку вымушана была лічыцца з разрастаннем беларуска-літоўскай дзяржавы на поўнач і ўсход. Тэрытарыяльнае афармленне ВКЛ на сто з лішкам гадоў апярэджвала Вялікае княства Маскоўскае, землі якога доўгі час знаходзіліся пад мангола-татарскім ярмом.

Пры Альгердзе (1345-1377 гг.) дзяржава нашых продкаў выступіла з праграмай збірання вакол Вільні ўсіх земляў былой Кіеўскай Русі і рэальна прэтэндавала на завяршэнне гэтага працэсу далучэннем Масквы. Другім шлюбам - на цвярской князёўне Ульляне - Альгерд радніцца з Цверру - галоўным канкурэнтам Масквы ў збіранні земляў Паўночна-Усходняй Русі і пашырае там свой уплыў, што, аднак, абвастрае яго адносіны з Масквой.

Убачыўшы рэальную пагрозу сваім пазіцыям у Паўночна-Усходняй Русі, Масква імкнецца перашкодзіць тут уплыву ВКЛ. Будучы тады не ў стане ўступіць у адкрытую барацьбу з самім княствам, яна паспрабавала аслабіць саюзніка Альгерда і свайго даўняга канкурэнта - Цвер. Менавіта ў падтрымку Цверы Альгерд робіць тры паходы на Маскву (1368, 1370, 1372 гг.). «Прежде того толь велико зло Москве от Литвы не бывало в Руси, аще от Татар бывало», - канстатаваў маскоўскі летапісец пра аблогу 1368 года. Горад тады ўзяць не ўдалося, былі толькі разбураныя пасады. У час паходу 1370 года Альгерд учыніў з Масковіяй мяжу па Каломны і Мажайск, а, ад'язджаючы, сказаў Дзмітрыю Іванавічу (будучаму Данскому): «Княжа вялікі маскоўскі, памятай, што дзіда літоўская стаяла пад Масквою». (Нагадаем, Літвой у XIV-XVIII стагоддзях называлі не толькі сучасную ўсходнюю Літву і яе насельніцтва, але і землі цэнтральнай і заходняй Беларусі, якія складалі гістарычнае ядро княства. У больш шырокім сэнсе Літва - гэта тэрыторыя ўсяго княства). Такім чынам, у часы найбольшай магутнасці дзяржавы нашых продкаў яго ўсходняя мяжа прыкладна 100 км не даходзіла да Масквы, для якой мы былі тады «старэйшым братам».

Услед за Наваградкам і Вільняй пачала збіраць вакол сябе ўсходнеславянскія землі Масква. Ужо ад пільнага вока князя Івана Каліты (1325-1340 гг.) не схавалася тое, што Масква ўжо трохі спазнілася з клопатам пра збіранне тэрыторыяў, што беларускія і часткова ўкраінскія ды расейскія землі ўжо аб'ядналіся ў адзінай дзяржаве, якая, як снежны камяк, абрастае «рускімі» землямі, усё больш разрастаецца на Усход. З другой паловы XIV стагоддзя, пасля разгрому мангола-татараў у Кулікоўскай бітве, узмацнелае Маскоўскае княства ўступае ў доўгатрывалае суперніцтва з ВКЛ за палітычную ўладу і царкоўнае лідарства ва Усходняй Еўропе. Суседства з ім аказалася небяспечным для ВКЛ, горам і рэкамі крыві абярнулася для Беларусі. За два стагоддзі (канец XV-XVII) паміж ВКЛ (потым Рэччу Паспалітай) і Масковіяй адбылося 9 войнаў, 7 з якіх распачала апошняя. У сямі з іх Беларусь была арэнай ваенных дзеянняў. Звыш 40 гадоў у XVI стагоддзі і каля 20 ў XVII стагоддзі Расейская дзяржава знаходзілася ў стане вайны з беларускімі землямі; у XVIII расейскія войскі неаднаразова акупавалі беларускія тэрыторыі саюзнай ёй Рэчы Паспалітай.




**Мяжа паміж нашай Радзімай - Вялікім княствам Літоўскім - і Масковіяй у XIV-XV стагоддзях была арэнай кровапралітных войнаў. Заштрыхаваныя тэрыторыі - першыя з тых, што «старэйшы брат» адабраў у ВКЛ. Гэта здарылася падчас вайны**

Але гэтым войнам папярэднічала ператварэнне ВКЛ у буйнейшую еўрапейскую дзяржаву і палітычнага лідара ва Усходняй Еўропе, якім яно стала ў першай трэці XV стагоддзя. Вітаўт (1392-1430 гг.) падпарадкаваў інтарэсам сваёй краіны раздзіраемую ўсобіцамі слабеючую Залатую Арду, дзе садзіць на ханскі трон сваіх стаўленікаў, праз якіх аказвае ўплыў на справы Маскоўскага княства. Абяцаючы аднавіць уладу над Ардой выгнанага адтуль Тахтамыша, Вітаўт дамаўляўся з ім: «Я тебя посажю на Орде и на Сараи, и на Болгарех (Волжская Булгарыя), и на Асторохани, и на Азове.., а ты мене посади на Московском великом княжении... и на Новгороде Великом, и на Пскове, а Тверь и Рязань моя и есть, а Немцы (Тэўтонскі Ордэн) и сам возму». Але напрыканцы XIV стагоддзя здзейсніць гэтую задуму Вітаўту не ўдалося. Прабыванне на прастоле ў Залатой Ардзе ў першай трэці XV стагоддзя ханаў правітаўтавай арыентацыі (некаторыя з іх нават і каранаваныя былі ў Вільні) сказвалася на ўсім ходзе міжнароднага жыцця Усходняй Еўропы на карысць княства - праз іх вялікі літоўскі князь дамагаецца зручнай сабе расстаноўкі сілаў у Паўночна-Усходняй Русі. Нездарма тады гаварылі: «Той, хто кіруе Ардой, гаспадарыць на Русі».

Моц Вітаўта і палітычны прэстыж нашай дзяржавы ў тагачаснай Еўропе Мікола Гусоўскі, аўтар славутай «Песні пра зубра» (1522 г.) падаў такімі паэтычнымі радкамі:

«...Ставіў агалены меч свой, як слуп пагранічны,<br>
Перад нашэсцямі ворагаў з поўдня і ўсходу.<br>
...Грознай Ардзе мог прыкрыкнуць: знай меру, татарын!<br>
Як знакаміты багаццем і сілай Масковіі землі,<br>
Усе і яны прымірэння прасілі з літвінам.<br>
Турак з Таўрыды* заўсёды цюкі падарункаў<br>
Вітаўту слаў, прыхаваўшы свой клопат таемны:<br>
Як бы задобрыць, улесціць і гнеў не наклікаць<br>
На галаву сваю з боку Літоўскай дзяржавы.<br>
Тры каршуны**, што наводзілі жах на паўсвета,<br>
Як пылюкі, перад ім нават ціўкнуць не смелі».

У першай палове XV стагоддзя хіліўся да скону разгромлены пад Грунвальдам Тэўтонскі ордэн. Адышла ў нябыт небяспека з боку крыжакоў, якая два стагоддзі пагражала беларускім і літоўскім землям. Затое з другой паловы XV стагоддзя пагроза незалежнасці ды існаванню ВКЛ узрастае на Усходзе, дзе набірае моц яшчэ адзін наш гістарычны сусед - Масковія. Падпарадкаваўшы сабе Паўднёва-Усходнюю Русь, далучыўшы Ноўгарад і Цвер і канчаткова вызваліўшыся ў 1480 годзе з мангола-татарскай няволі, яна ў сваім імкненні да прыярытэту ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне пачала дэманстраваць адкрыта агрэсіўную палітыку да дзяржавы нашых продкаў. Масква перахоплівае ў Літвы ініцыятыву ў збіранні «рускіх земляў», выкарыстоўваючы ў спрэчках з ёю два галоўныя аргументы: рэлігійнае першынство, прыналежнасць сваіх уладароў да дынастыі Рурыкавічаў і прэтэнзіі на ўласную выключнасць у якасці спадчынніка ўсходнеславянскіх земляў. Маладой дзяржаве былі патрэбны сухапутныя і водныя шляхі ў Заходнюю Еўропу, неабходнасць ў тэхніцы і спецыялістах якой востра адчувалася ў Маскве. Найбольш кароткі і выгадны шлях праходзіў праз Смаленск і Беларусь. Жаданне авалодаць гэтымі стратэгічна і эканамічна важнымі для Масковіі землямі не магло не прывесці да яе сутыкнення з ВКЛ.

У 50-80-ыя гады XV стагоддзя адносіны паміж дзяржавамі рэгуляваліся «вялікім актам падзелу паміж Масквой і Вільняй» 1449 г., па якому маскоўскі князь абавязваўся «не вступатися» ў вотчыну вялікага літоўскага князя і польскага караля Казіміра: «ни в Смоленск, ни в Любутеск (Любеч), ни во Мценск, ни во вси...вкраинные места», прызнаваў яго пратэктарат над Цверру, а той, у сваю чаргу, адмаўляўся ад прэтэнзіяў на Ноўгарад і Пскоў.

Асаблівую актыўнасць па збіранню земляў і княстваў вакол Масквы развіў Іван III (1462-1505 гг.). Масква пры ім стала прэтэндаваць на ўсе землі Рурыкавічаў - уладароў колішняй старажытнай Русі, адзіным пераемнікам якой яна сябе лічыла. Гэта пачынае закранаць палітычныя, эканамічныя і тэрытарыяльныя інтарэсы ВКЛ, якое да таго часу ўжо аб'ядноўвала большасць тэрыторыі былой старажытнай Русі. З падпарадкаваннем у 1471-1478 гадах Іванам III Ноўгарада міжнародная абстаноўка ў рэгіёне стала складвацца не на карысць ВКЛ. Быў заключаны маскоўска-крымскі саюз антылітоўскай скіраванасці. Іван III не ўпускаў выпадку «заграбаць жар чужымі рукамі» - нацкоўваць крымскіх татар на ВКЛ. Фактычная інкарпарацыя Цверы ў 1485 годзе з'яўлялася грубым парушэннем дамовы 1449 года, па якой на гэтае княства распаўсюджваўся пратэктарат Літвы.

Парадніўшыся праз шлюб з Палеолагамі - уладарамі калісь магутнай Візантыйскай імперыі, Іван III прыняў за дзяржаўны герб арла візантыйскіх цэзараў і прысвоіў сабе тытул «гасудара усяе Русі», што выклікала шок у нашай гістарычнай сталіцы Вільні - у гэтым тытуле была непрыкрытая прэтэнзія на «рускія» (сучасныя беларускія, украінскія і расейскія) землі, якія знаходзіліся ў складзе ВКЛ. «Вся Русская земля с божьею волею, из старины, от наших прародителей - наша отчизна», - заяўляе маскоўскі князь. Ён ужо забыўся, што «из старины» яго вотчынай быў невялікі маскоўскі ўдзел. Ужо ў 1489 годзе Казімір пачуў папрок Івана III: «Нашы гарады і валасці, і землі, і воды кароль за сабою трымае», - які ад словаў пераходзіць да справы - маскоўскія наезды на памежныя тэрыторыі ВКЛ набываюць усё больш сур'ёзны характар. З 1480-х гадоў дзяржавы фактычна знаходзяцца ў стане неаб'яўленай вайны паміж сабой. У выніку яе маскоўскія князі «ашчыпваюць» усходні край нашай дзяржавы ў вярхоўях Волгі. Ідэалагічным прыкрыццём захопніцкай палітыкі Масковіі быў лозунг абароны праваслаўнага насельніцтва ў ВКЛ, якое, хоць і мела тады менш палітычных правоў, чым



**Канстанцін Астрожскі - найвышэйшы гетман Вялікага княства Літоўскага**

каталікі, аднак, не ўціскалася, - пераходзіць у каталіцтва тады ніхто не прымушаў. Шляхта рабіла гэта ў пагоні за прывілеямі, якія даваліся каталікам. Выкарыстанне Іванам III прыцяснення праваслаўных як падставы для войнаў можна кваліфікаваць як умяшанне ва ўнутраныя справы іншай дзяржавы. Дарэчы, пачынаючы ад Івана III, маскоўска-пецярбургскія ўладары ўчапіліся за рэлігійную карту, якая заўсёды была казырнай у іх палітычнай гульні на беларускіх землях. Гэтую гульню з рэлігійнай картай давяла да лагічнага завяршэння Кацярына II, інкарпараваўшы іх у склад Расеі.

Абвяшчэнне Іванам III беларуска-ўкраінскіх земляў сваёй вотчынай было падрыхтавана таксама палітычнымі выступленнямі прамаскоўску настроенай, больш блізкай да Масквы нацыянальна і рэлігійна, незадаволенай умовамі службы ў вялікага літоўскага князя і яго нацыянальна-рэлігійнай палітыкай знаці крайніх усходніх тэрыторыяў ВКЛ. Асобныя яе прадстаўнікі здраджвалі сваёй радзіме і прымалі маскоўскае падданства, захоўваючы за сабой свае зямельныя ўладанні, якія з дапамогай маскоўскага войска ўключаліся ў склад суседняй краіны. Апошняя інспіравала ўнутраныя канфлікты ў беларуска-літоўскай дзяржаве. Варта прыгадаць хаця б мяцеж Міхаіла Глінскага ў 1508 годзе. Насельніцтва ж падняпроўскіх земляў з Полацкам, Віцебскам і Смаленскам на чале, г.зн. этнічныя беларускія землі, былі больш прыхільныя да Вільні.

Памежныя сутычкі рабілі вайну паміж дзяржавамі няўхільнай. Маскоўскі князь распачаў яе ў 1492 годзе, як толькі даведаўся пра смерць у Гародні вялікага літоўскага князя і караля польскага Казіміра. Тры вялікія арміі рушылі да ўсходніх межаў ВКЛ. Іван III заклікаў «идти на Литву» і свайго саюзніка - крымскага хана Менглі-Гірэя. ВКЛ, непадрыхтаванае да вайны, яе прайграла. Яно вымушана было канчаткова адмовіцца ад правоў на Ноўгарад, што аслабіла яго ўплыў на Русі. Парваўшы рэлігійныя і культурныя сувязі паўночнай феадальнай рэспублікі з ВКЛ, Масква тым самым брала ролю правадыра ў «рускім» (усходнеславянскім) свеце ў свае рукі. Захопленыя ёю землі цяпер клінам урэзваліся ўглыб тэрыторыі ВКЛ. Іван III пацвердзіў абавязацельства свайго папярэдніка «не вступатися» ў Смаленск. Мірная дамова 1494 года была замацавана шлюбам вялікага літоўскага князя Аляксандра з Іванавай дачкой Аленай.

**Эмілія Плятэр, кандыдат гісторыі**

* Крымскае ханства

** Маскоўскае княства, Залатая Арда і Крымскае ханства

Працяг будзе

